*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*

# ЗВЯЗДА

1 мая 1991 г. СЕРАДА

*Газета выдаецца са жніўня 1917 года*

**Орган Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі, Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Беларускай ССР**

№ 85 (21613)

Цана 10 кап.

*Пастанова аб'яднанага Пленума ЦК і ЦКК КПСС ад 25 красавіка 1991 года*

## Аб рабоце камуністаў у Саветах народных дэпутатаў

1. Адобрыць асноўныя палажэнні даклада пастаяннай Грамадска-палітычнай камісіі ЦК КПСС па пытанню «Аб рабоце камуністаў у Саветах народных дэпутатаў» і апублікаваць у друку КПСС.

Прапанаваць ЦК кампартый саюзных рэспублік, рэскомам, крайкомам і абкомам партыі выкарыстаць матэрыял даклада ў практычнай рабоце.

2. Палітбюро ЦК КПСС выпрацаваць неабходныя рэкамендацыі па ўдасканаленню работы камуністаў у Саветах народных дэпутатаў.

# ПЕРШАМАЙ: ТРЫВОГІ І НАДЗЕІ



## МАЙ. МІР. ПРАЦА.

МАЙ, МІР, ПРАЦА. Так проста і прыемна пісаліся матэрыялы, прымеркаваныя да Першамая, яшчэ зусім нядаўна: пра чырвань святочных сцягоў і сакавітую майскую зеляніну.

Але на гэты раз наша галоўная плошча не дачакалася Першамая ва ўсёй сваёй строгай прыгажосці і бездакорным парадку, што асабліва старанна наводзяцца тут да веснавога дня салідарнасці працоўных. Пралетарыі апярэдзілі падзеі. Яны выйшлі на плошчу на некалькі дзён раней. Без прывычнай, вытрыманай у чырвоных колерах атрыбутыкі. Без акуратных, загадзя падрыхтаваных лозунгаў аб перамозе сусветнай пралетарскай рэвалюцыі.

Наш лексікон узбагаціўся такімі словазлучэннямі, як «эканамічныя патрабаванні», «палітычныя патрабаванні», «стачком» (ён жа «страйком»). Мы, вядома, і раней іх ведалі, але гучалі яны даволі абстрактна і ні ў якім разе не мелі дачынення да нашай сацыялістычнай рэчаіснасці, дзе народ — гаспадар свайго лёсу.

Мы штогод выходзілі на дэманстрацыі, каб прадэманстраваць сваю салідарнасць з пралетарыямі ўсяго свету, якія змагаюцца за свае правы. Міжнародны рабочы рух — даўно існуючая з'ява, што дае магчымасць людзям працы пастаяць за сябе, за свае інтарэсы. Але вельмі доўгі час мы не бачылі сябе ў гэтай сістэме.

Свой удзел у рабочым руху мы ўяўлялі праз расквечаныя плошчы і калоны шчаслівых людзей.

Але вось прыпякло нам. Дзяржава даўно перамогшага пралетарыяту ўскінула на ўсіх нас, у тым ліку на саміх пралетарыяў, даволі важкія ланцугі (ці не тыя, што калісьці гублялі, паставіўшы на мэце набыць увесь свет?) у выглядзе новых, даўно абяцаных цэн. Мы кінулі работу і пайшлі баставаць. Але і там многіх чакала расчараванне. Адны праглі празмернай радыкалізацыі рабочага руху, іншых менавіта гэты радыкалізм напалохаў. Мы не навучыліся самастойна меркаваць аб мэтах, сродках і сілах розных палітычных рухаў. Мы з гатоўнасцю махалі чырвоным сцяжком у падтрымку сусветных пралетарыяў, але нічога не ведалі пра традыцыі рабочага руху.

Так, мы павінны змагацца за свае правы. Іначай на плечы рабочаму чалавеку, як нярэдка бывала, вельмі хутка сядуць тыя, хто найбольш спрытны ў палітыцы, ва ўсемагчымых прамовах і абяцаннях — для таго, каб паганяць, каб абмяжоўваць усемагчымымі ідэалагічнымі і іншымі цуглямі вольны і дужы рух здаровай сілы. Але мы павінны навучыцца бачыць і пазнаваць тых, хто хоча ў чарговы раз выехаць на рабочых плячах ва ўладары і паганятыя, пакінуўшы пралетарыям іх спрадвечныя, апетыя Марксам ланцугі. (С. Ожагаў. «Слоўнік рускай мовы»: «Пралетарый—наёмны рабочы ў капіталістычным грамадстве, пазбаўлены прадметаў і сродкаў вытворчасці»). Можа, хопіць нам быць пралетарыямі, якім няма чаго губляць? Можа, усім разам трэба выпакутаваць такі ўклад нашага жыцця, каб было чым даражыць, пра што клапаціцца, было што губляць і шкадаваць?

Магчыма, тады мы не станем так безаглядна кідаць станкі, шахты і г. д.? Магчыма, тыя згубленыя мільёны, аб якіх так часта паўтараюць у прэсе, не будуць для нас абстрактнымі? Як нам навучыцца адстойваць сваю годнасць, свае інтарэсы і правы, не парушаючы правоў тых, хто ні ў чым не вінаваты перад намі? У Оршы выйшлі на рэйкі рабочыя, і спыніліся паязды, у якіх, магчыма, нехта спяшаўся на вяселле сына ці на пахаванне маці. Можна растлумачыць забастоўкай спазненне на гэтыя вечныя нашы адзнакі жыцця, але як даравац — перш за ўсё сабе, як жыць з вечным дакорам і тугою?

І ўсё ж няхай нашым лозунгам застаецца і ў гэты Першамай яднанне. Перад грознай ядзернай бядой, якая непазбежна ўклініцца ў нашы спрэчкі і падманы, калі не спынім іх. Перад атрутнымі вужакамі дыму над нашымі заводамі, якія балюча ўджаляць, калі не пачнём ахоўваць ад іх адзін аднаго. Перад пяшчотным цюльпанам на веснавой плошчы, высаджаным клапатлівай рукой працаўніцы для нашай радасці — і перад затаптаным грубай сілай таксама ж працаўнікоў, што прыйшлі сюды на мітынг. Ці навучымся здабываць хлеб, не топчучы кветак?

З трывогай прарастае надзея...

## ВЯСНА. МАЙ. ЖЫЦЦЁ.

*Пастанова аб'яднанага Пленума ЦК і ЦКК КПСС*

# АБ СТАНОВІШЧЫ Ў КРАІНЕ І ШЛЯХАХ ВЫВАДУ ЭКАНОМІКІ З КРЫЗІСУ

### I.

Аб'яднаны Пленум Цэнтральнага Камітэта і Цэнтральнай Кантрольнай Камісіі КПСС адзначае, што развіццё падзей у краіне становіцца надзвычай небяспечным, крытычным для лёсаў савецкага народа, Саюза, сацыялізму. У краіне развязана беспрэцэдэнтная «вайна законаў», ідзе разбурэнне шматгадовых гаспадарчых сувязей, у наяўнасці расстройства фінансавай сістэмы. Рэзка зніжаецца жыццёвы ўзровень насельніцтва. Людзі зведваюць няўпэўненасць у заўтрашнім дні, азлобленыя. Зніжаецца давер народа як да палітыкі цэнтра, так і да органаў улады на месцах. Сітуацыя тоіць у сабе сацыяльны выбух.

Удзельнікі Пленума лічаць, што прычыны гэтых негатыўных з'яў у грамадстве знаходзяцца як у спадчыне мінулага, складанасцях і шматграннасці вырашаемых краінай задач, так і ў праліках, дапушчаных у ходзе іх рэалізацыі. Супярэчлівае развіццё палітычных працэсаў дэстабілізуюча адбівалася на ходзе сацыяльна-эканамічных пераўтварэнняў. Не была своечасова дадзена ацэнка праяўленням нацыяналізму і сепаратызму, якія прывялі да міжнацыянальных канфліктаў.

Сярод камуністаў нарастае незадаволенасць абстаноўкай у КПСС, выказваюцца абгрунтаваныя патрабаванні да кіруючых органаў партыі дзейнічаць больш рашуча і з удзелам партыйных арганізацый вызначаць шляхі і сродкі для ажыццяўлення палітычнага курсу XXVIII з'езда КПСС, выпрацаваць эфектыўныя меры па пераадоленню крызісу ў эканоміцы.

Характэрная рыса бягучага моманту — усё больш актыўная стаўка антысацыялістычных сіл на непарламенцкія метады барацьбы. Выкарыстоўваючы цяжкасці і незадаволенасць людзей, яны падштурхоўваюць іх да забастовак і галадовак пад палітычнымі лозунгамі, антыканстытуцыйных дзеянняў супраць законна выбраных органаў улады. Вядзецца мэтанакіраваная дыскрэдытацыя арміі, службы дзяржбяспекі, праваахоўных органаў.

Нельга не ўлічваць і наяўнасць кансерватыўных настрояў у грамадстве, імкненняў да рэстаўрацыі адміністрацыйна-каманднай сістэмы.

Пленум ЦК і ЦКК падтрымлівае сумесную заяву Прэзідэнта СССР і кіраўнікоў дзевяці саюзных рэспублік аб неадкладных мерах па стабілізацыі абстаноўкі ў краіне і пераадоленню крызісу. Мы звяртаемся да Саветаў усіх узроўняў, да ўсіх палітычных і грамадскіх сіл з настойлівым заклікам выкарыстаць свае паўнамоцтвы і ўплыў для паслядоўнай рэалізацыі гэтай узгодненай стратэгіі. Мы звяртаемся да камуністаў, да ўсіх грамадзян Арменіі, Грузіі, Латвіі, Літвы, Малдовы, Эстоніі з прапановай далучыцца да агульнага руху, які ставіць на мэце аздараўленне грамадска-палітычнай сітуацыі і выхад з эканамічнага крызісу. Мы заклікаем органы ўлады гэтых рэспублік узважыць усе магчымыя вынікі выхаду з Саюза ССР.

Настаў час энергічных сумесных дзеянняў усіх, каму дарагія лёс краіны, гонар і годнасць людзей, дабрабыт у кожным доме. Узнікшая абстаноўка дыктуе неабходнасць пошуку шляхоў грамадскай згоды, устанаўлення грамадзянскага міру, адмовы ад канфрантацыі і палітычных амбіцый.

### II.

1. Аб'яднаны Пленум ЦК і ЦКК КПСС пацвярджае прыхільнасць партыі да перабудовы як курсу на абнаўленне грамадства, усталяванне дэмакратычных каштоўнасцей і сацыяльнай справядлівасці ў рамках сацыялістычнага выбару.

Пленум падкрэслівае, што ў мэтах прадухілення насяпваючай катастрофы жыццёва неабходна:

— падпісаць Саюзны дагавор на аснове вынікаў агульнанароднага рэферэндуму аб захаванні Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік;

— аднавіць канстытуцыйны парадак і законнасць у краіне;

— Прэзідэнту СССР, вышэйшым органам дзяржаўнай улады Саюза і рэспублік, мясцовым Саветам народных дэпутатаў энергічна выкарыстаць усе паўнамоцтвы для вываду краіны з крызісу.

2. Пленум заклікае партыйныя арганізацыі ў рамках канстытуцыйных норм і з улікам суверэнітэту рэспублік рашуча процідзейнічаць усім сілам, якія разбураюць адзінства Саюза ССР, адраджаюць у радзе выпадкаў на рэспубліканскім узроўні адміністрацыйна-камандныя, а то і таталітарныя структуры.

Прызнаючы неабходнасць адкрытых дыскусій і палітычнага дыялога з усімі грамадска-палітычнымі рухамі і партыямі, Пленум лічыць, што абмеркаванне праблем змянення будовы і функцыяніравання дзяржаўных структур павінна адбывацца законна выбранымі народам органамі ўлады і ў парадку, вызначаным дзеючымі прававымі нормамі.

### III.

1. Аб'яднаны Пленум ЦК і ЦКК КПСС падтрымлівае намаганні Кабінета міністраў СССР па вываду эканомікі з крызісу і лічыць, што змешчаныя ў дакладзе прэм'ер-міністра СССР т. Паўлава В. С. асноўныя напрамкі антыкрызісных дзеянняў урада накіраваны на аднаўленне кіруемасці эканомікай і стабілізацыю народнай гаспадаркі, ствараюць прадпасылкі для пераходу да рынначных адносін.

Разам з тым Пленум выказваецца за ўдасканаленне антыкрызіснай урадавай праграмы ў мэтах яе большай адпаведнасці інтарэсам працоўных, за распрацоўку і ажыццяўленне механізма рэалізацыі намячаемых мер. Неабходна зрабіць усё магчымае, каб спыніць зніжэнне жыццёвага ўзроўню насельніцтва, забяспечыць яго сацыяльную абарону, перш за ўсё асоб, якія жывуць на фіксаваныя даходы, мнагадзетных сем'яў. Трэба настойліва вырашаць праблемы працоўнай занятасці, жылля, нармалізацыі спажывецкага рынку.

Пленум настойвае на тым, каб Кабінет міністраў СССР сумесна з урадамі рэспублік неадкладна падвялі вынікі пачатай рэформы рознічных цэн і ўнеслі ў яе прадыктаваныя абстаноўкай карэктывы. Пры гэтым асаблівую ўвагу ўдзяліць рэалізацыі дадатковых мер па кампенсацыі падаражання харчавання ў студэнцкіх, школьных буфетах і сталовых, зніжэнню цэн на дзіцячыя тавары, а таксама новых тарыфаў на праезд у чыгуначным і паветраным транспарце, адмене 5-працэнтнага падатку з продажаў на сацыяльна значныя тавары, увядзенню індэксацыі даходаў насельніцтва.

2. Удзельнікі Пленума выказваюць цвёрдую думку, што выхад з крызісу магчыма ажыццявіць на аснове пераадолення спаду і павелічэння аб'ёмаў вытворчасці, забеспячэння працоўнай дысцыпліны, разнявлення таваравытворцаў, стварэння для працоўных калектываў дзейсных матэрыяльных стымулаў. Пераход да рынначных адносін павінен насіць дакладна рэгулюемы характар, які выключае глыбокае маёмаснае расслаенне грамадства, ліквідацыю сацыяльных заваёў працоўных. Неабходна папераджальная палітычная, эканамічная і прававая прапрацоўка пытанняў лібералізацыі цэн, раздзяржаўлення і прыватызацыі, прыцягнення ў краіну замежнага капіталу.

Пленум лічыць, што працэс раздзяржаўлення ўласнасці павінен праходзіць у рамках заканадаўчага рэгулявання пры шырокім удзеле працоўных калектываў і прафсаюзных арганізацый. Неабходна неадкладна спыніць «дзікую», нерэгулюемую законам прыватызацыю, перагледзеўшы раней паспешліва прынятыя рашэнні, якія супярэчаць прававым нормам. Партыйным камітэтам аказаць дапамогу працоўным калектывам у рэалізацыі сваіх правоў на гаспадарчую ініцыятыву праз арэнду, стварэнне калектыўных і народных прадпрыемстваў.

3. Пленум выступае за неадкладнае ажыццяўленне антыкрызісных мер надзвычайнага характару, накіраваных на аднаўленне і ўмацаванне адзінай дзяржаўнай бюджэтна-фінансавай і банкаўскай сістэм краіны, устанаўленне жорсткага дзяржаўнага кантролю за знешнеэканамічнай дзейнасцю.

Патрэбны эфектыўныя дзеянні ўрадавых органаў па стварэнню сістэмы планавання мэтавых стратэгічных праграм, стабілізацыі гаспадарчых сувязей, перагрупоўцы рэсурсаў на

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

# Сустрэча з журналістамі

У ЦК КП Беларусі адбылася сустрэча першага сакратара ЦК КПБ А. Малафеева з групай работнікаў друку, тэлебачання і радыё.

Выступаючы перад прысутнымі, адказваючы на іх пытанні, А. Малафееў сканцэнтраваў асноўную ўвагу на аналізе сітуацыі ў краіне і рэспубліцы, КПСС і КПБ. Было падкрэслена, што вывад нашага грамадства з крызісу магчымы толькі па шляху стабілізацыі эканамічнай і палітычнай абстаноўкі, паўсюднага аднаўлення і няўхільнага захавання канстытуцыйнага парадку. У адваротным выпадку праваляцца не толькі ўсе надзеі на лепшае жыццё, але і непазбежнай будзе жорсткая сутычка разнародных палітычных сіл. Сёння вышэй за ўсё павінны быць пастаўлены інтарэсы народа. Злачынна выкарыстоўваць яго справядлівую незадаволенасць эканамічным становішчам у своекарыслівых палітычных мэтах. Падбухторванні да забастовак, грамадзянскага непадпарадкавання, да звяржэння законна выбраных органаў дзяржаўнай улады згубныя для грамадства. Усіх, хто сапраўды заклапочаны лёсам краіны, рэспублікі, павінна аб'яднаць практычная работа па пераадоленню эканамічнага крызісу.

Журналісты былі інфармаваны аб выніках праведзенага гэтымі днямі аб'яднанага Пленума ЦК і ЦКК КПСС. Закранаючы ўзнікшае на Пленуме пытанне аб адстаўцы М. Гарбачова з пасады Генеральнага сакратара ЦК КПСС, А. Малафееў адзначыў справядлівасць і аб'ектыўнасць рада крытычных заўваг, якія выказваліся ў адрас кіраўніка дзяржавы і партыі. Разам з тым ён падкрэсліў, што прынятае па гэтаму пытанню рашэнне Пленума палітычна правільнае, выверанае і сапраўды адпавядае вышэйшым інтарэсам краіны, народа, партыі.

У цэлым станоўча А. Малафееў ацаніў праграму вываду эканомікі краіны з крызісу, прапанаваную прэм'ер-міністрам СССР В. Паўлавым. Хоць, на яго погляд, многае ў ёй яшчэ трэба будзе дапрацаваць. Асабліва ў частцы сацыяльнай абароны насельніцтва.

У ходзе сустрэчы былі разгледжаны некаторыя пытанні ўзаемадзеяння партыйных камітэтаў і сродкаў масавай інфармацыі, паляпшэння ўмоў работы журналістаў.

**Прэс-служба ЦК КПБ.**

# ЗВАРОТ

## Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР і Савета Міністраў БССР

# ДА БЕЛАРУСКАГА НАРОДА

Дарагія суайчыннікі!

Ёсць падзеі, грамадская значнасць якіх бясспрэчная. У іх радзе свята І Мая, дзень яднання людзей працы. І ў наш час вялікая цана яго светлых ідэалаў. Беларускаму народу блізкія і зразумелыя словы: Мір, Май, Праца. Будучыню чалавецтва могуць забяспечыць толькі мір і праца. А май — сімвал абнаўлення ў прыродзе і грамадстве.

Аднак нялёгка даецца абнаўленне ўсяго нашага жыцця. Дапушчана нямала памылак, пралікаў, якія аддаляюць нас ад намечанага. У нашых з вамі сілах забяспечыць, каб працэсы, якія адбываюцца, былі менш балючымі. Для гэтага неабходна згода. Без умення і жадання слухаць адзін аднаго мы не зробім новага кроку наперад. Мовай ультыматумаў сёння размаўляць немагчыма. Існуючыя праблемы вырашальныя толькі ў спакойнай, дзелавой абстаноўцы, цывілізаванымі метадамі.

Усе грамадскія рухі павінны праявіць узаемную цярпімасць, жаданне супрацоўнічаць. Самыя высакародныя мэты не апраўдаюць развал і хаос, калі яны надыдуць. Хочацца верыць, што нікому не ўдасца саштурхнуць у бездань канфрантацыі духоўна багаты беларускі народ, які валодае невычарпальнай энергіяй дабра і стварэння.

Цяжкі, бурны красавік 1991 года не выкрасліць з гісторыі Беларусі, як не выкрасліш і тое, што прымаюць Вярхоўны Савет і Урад рэспублікі для аблягчэння жыцця людзей у цяжкі для ўсёй краіны час. Толькі пры поўнай падтрымцы і даверы вярхоўнай заканадаўчай, а таксама выканаўчай улады ўсіх узроўняў, якую ажыццяўляюць вашы выбраннікі, мы зможам выйсці з крызісу.

Першамай — гэта і свята дружбы ўсіх народаў Зямлі. І ў нашай краіне, і за рубяжом ад нас перш за ўсё чакаюць разважнасці. Насенне, кінутае ў гэтыя дні земляробам у спрыяльную ніву, узыдзе збожжам. Зярняты згоды, пасеяныя ў майскія дні, узыдуць мірам і дабрабытам у кожным доме.

Са святам вас, дарагія таварышы!

ЧАС ПАДПІСАННЯ У ДРУК: ПА ГРАФІКУ 21.05, НУМАР ПАДПІСАНЫ У 21.05.

## Народны каляндар

# Май

1. Дзень называецца ў народзе «ПРАПАЛАВЕННЕ» ці «Перапалаўная серада» і дзеліць напалам перыяд паміж Вялікаднем і Сёмухай (Тройца). Ад гэтага дня дазваляецца купацца ажно да Іллі (2 жніўня). Каб цыбуля была не вельмі горкай, яе рэкамендуецца садзіць на Прапалавенне.

6. ГЕОРГІЙ (Юр'я, Юрай, Ягор'я). Менавіта з Юр'я, як лічылася амаль паўсюдна, пачынала кукаваць зязюля. У гэты дзень сяляне выходзілі з песнямі і ахвярнымі стравамі аглядаць свае зарунелыя палеткі. («Калі прыйдзе Юры, не ўгледзіш у жыце куры»). Першы выпас скаціны.

8. МАРК, СІЛЬВЕСТР. Чакалі, што на Марка прыляцяць пеўчыя птушкі.

13. МІКІТА, ІГНАТ, ДАНАТ, ВАСІЛЬ, МАКСІМ, ЯКУБ. Народная прыкмета — набліжэнне цяпла: «На Якуба грэе люба».

16. Сёлета на гэты дзень прыпадае царкоўнае свята УЗНЯСЕННЕ (па-народнаму — Ушэсце). Святкуецца заўсёды на шостым тыдні пасля Вялікадня, у чацвер.

22. МІКОЛА-ВЕСНАВЫ (ці летні). Мікола «пагоду становіць» — таму зваўся яшчэ «цёплым». Самы, бадай, шануемы святы-цудатворца, абразы якога віселі амаль у кожнай хаце. Веснавы Мікола лічыўся святам конюхаў.

24. Па дні КІРЫЛЫ І МЯФОДА меркавалі пра ўсё наступнае лета: калі ён мокры — лета мокрае, сухі — усё лета сухое.

25. У суботу напярэдадні СЁМУХІ адзначаецца чарговы памінальны дзень — летнія (траецкія, сёмушкіныя, стаўроўскія) Дзяды, асабліва пашыраныя ў паўночнай і ўсходняй частцы Беларусі.

26. СЁМУХА (Тройца) — нядзеля, якой завяршаецца сёмы тыдзень пасля Вялікадня. Сярод каталіцкага насельніцтва часта называлася «Зялёныя сяткі» ці «Зелянец». Знаменавала развітанне з вясною: «На Зелянец вясны канец».

31. ХВЯДОТ, ПЁТР, ДЗЯНІС, АНДРЭЙ, ПАВЕЛ, ХРЫСЦІНА, а таксама — Сем дзеў.

# ЛЯЧЫЦЬ, ЯК ЛЕЧЫЦЬ ПРЫРОДА

*Ваша здароўе*

**ГАМЕАПАТЫЯ... Што стаіць за гэтым таямнічым словам! Многім яно нічога не гаворыць. А між тым ім абазначаецца вельмі перспектыўны ў медыцыне напрамак. Нядаўна ў Беларусі створана гамеапатычная асацыяцыя. Яе старшыня—кандыдат медыцынскіх навук Ларыса Глазкова. Яна ж абрана віцэ-прэзідэнтам Савецкай гамеапатычнай лігі.**

**— Аб першым пытанні, Ларыса Паўлаўна, Вы, відаць, здагадваецеся: што ж гэта такое — гамеапатыя?**

— Сапраўды, наш метад лячэння многім, на жаль, невядомы. І справа тут не ў метадзе, а ў каманднa-адміністрацыйнай сістэме, якая за людзей вырашала, што ім больш карысна і патрэбна. У той час як у ЗША дзейнічае гамеапатычны інстытут, выдаюцца 3 спецыяльныя часопісы, у Мексіцы працуюць 3 тысячы, а ў Францыі 6 тысяч урачоў-гамеапатаў, у індыйскіх інстытутах адкрыты 122 гамеапатычныя факультэты,—у Савецкім Саюзе гамеапатыя аддадзена на водкуп энтузіястам, і толькі апошнія гады адчуваецца хоць нейкая дапамога ёй з боку дзяржавы.

Дык што ж такое гамеапатыя? Яна як метад лячэння была прапанавана 200 гадоў назад нямецкім вучоным-медыкам Самюэлем Ганеманам. У адной са сваіх прац ён напісаў, што хваробы найбольш хутка, бяспечна і паспяхова вылечваюцца тымі лякарствамі, якія могуць выклікаць у здаровым арганізме падобную хваробу. «Падобнае лечыцца падобным»—гэта першы прынцып гамеапатыі. Другі—лячэнне малымі дозамі. Заканамернасць тут парадаксальная—чым меншая доза дзеючага рэчыва, тым большы эфект ад лячэння. Здараецца, дастаткова некалькіх малекул лякарства, каб дабіцца станоўчага выніку. А трэці прынцып — вывучэнне дзеяння лякарстваў на здаровых людзях. Той жа Ганеман разам са сваімі вучнямі на сабе «апрабіравалі» дзеянне 62 лекавых сродкаў. Гэты, трэці прынцып, самы магутны аргумент у спрэчцы з тымі, хто адносіцца да гамеапатыі з недаверам. Бо пагадзіцеся: адна справа даследаваць дзеянне лекаў на мышах і зусім іншая — на сабе, калі ты, як спецыяліст, да найдрабнейшых нюансаў адчуваеш уздзеянне на твой арганізм таго ці іншага прэпарата.

**— Калі ў пачатку нашай размовы я папрасіў дазволу папрысутнічаць на прыёме хоць аднаго пацыента, каб мець уяўленне, як лечаць гамеапаты, Вы мне адмовілі. Прызнацца, гэта мяне здзівіла: я не раз прысутнічаў у кабінеце ўрача ў час прыёму. А Вы, відаць, не хочаце выдаваць свае сакрэты?**

— Справа зусім у іншым. Адно і тое ж захворванне пазнаму пераносіцца рознымі хворымі, выклікаючы масу індывідуальных сімптомаў. Гамеапат павінен улічваць рэакцыю чалавека на фактары знешняга асяроддзя, ён мусіць высветліць такія сімптомы, як наяўнасць ці адсутнасць болю, слабасці, раздражняльнасці, плаксівасці, адмоўныя эмоцыі. Ва ўсім гэтым для ўрача пачынаюць раскрывацца індывідуальнасць хворага, яго канстытуцыйны тып, тэмперамент і інш. Адзін хворы не пераносіць спякоты, другі — холаду. Нават прыём ежы можа выклікаць паляпшэнне ці пагаршэнне стану. Так што, самі разумееце, усе гэтыя і многія іншыя падрабязнасці можна высветліць толькі калі гутарыш з чалавекам даверліва, сам-насам. Часта бывае неабходна тактоўна, незаўважна даведацца пра такія нюансы здароўя, самаадчування хворага, якім ён не надае ўвагі або ў якіх сам сабе баіцца прызнацца. Толькі дзякуючы менавіта такому падыходу дасягаецца мэта гамеапатыі—лячэнне не хваробы, а чалавека.

**— Шчыра кажучы, я заўсёды думаў, што да гэтай мэты імкнуцца ўсе ўрачы...**

— Сапраўды, гэта так. Але гамеапаты дасягаюць гэтага іменна ў сілу асаблівасцей самога метаду. Без такога, я сказала б, усеабдымнага падыходу да чалавека, яго арганізма не было б гамеапатыі.

**— Для мяне гамеапатыя заўсёды асацыіравалася з лячэннем травамі. Я маю рацыю?**

— Не, і гэта не толькі ваша памылка. У гамеапатычных лякарствах доля расліннага паходжання—да 60 працэнтаў. Каля 20 працэнтаў складаюць мінеральныя элементы (практычна ўся табліца Мендзялеева). А 10 працэнтаў — гэта прэпараты жывёльнага паходжання: пчаліны і змяіны яды ў мікрадозах, амбра кашалота, марская зорка, каралы.

**— Калі мы ўжо гаворым пра гамеапатыю як нетрадыцыйны метад лячэння, то заканамернае такое пытанне: як яна суадносіцца з іншымі нетрадыцыйнымі метадамі, так папулярнымі зараз?**

— Адкажу пытаннем на пытанне: ці варта называць нетрадыцыйнымі метады, якія маюць глыбокія традыцыі—гістарычныя, нацыянальныя, культурныя, калі хочаце? Гамеапатыя цудоўна спалучаецца з іглярэфлексатэрапіяй, мануальнай тэрапіяй, масажам і іншымі відамі, якія грунтуюцца на глыбокім веданні чалавечай прыроды, арганізма чалавека. У сферы выкарыстання настояў траў гамеапатыя мяжуе з фітатэрапіяй. Але мае перавагу перад ёю за кошт дакладнай дазіроўкі, зручных у прымяненні гатовых лекавых форм—гранул, мазей, вялікіх магчымасцей вар'іравання доз—ад дзесяцічных да тысячных развядзенняў.

**— Ці можна назваць хваробы, якія найлепш паддаюцца лячэнню метадам гамеапатыі?**

— Ведаеце, іх так многа, што адзін пералік заняў бы ўсю плошчу, адведзеную пад гэта інтэрв'ю. Назаву толькі малую частку—катаракта, адэноіды, экзема, энурэз, бранхіяльная астма, гіпертанія і ішэмічная хвароба сэрца, атэрасклероз сасудаў мозгу, захворванні страўніка, печані, нырак, гемарой і многія іншыя.

**— Гэтыя ж захворванні лечацца і традыцыйнымі метадамі. А ці ёсць выпадкі, калі чалавеку, акрамя як на гамеапатаў, няма на каго спадзявацца?**

— На жаль, так. Я кажу «на жаль», бо такіх захворванняў шмат, а гамеапатаў у рэспубліцы зусім мала. Вось хоць бы такі прыклад—кілоідны рубец, г. зн. лішняе разрастанне рубцовых тканак пасля траўм або хірургічнага ўмяшання. Перад Вялікаднем у мяне была пацыентка, якая жыве ў Празе. Паколькі ў Чэха-Славакіі гамеапатыі няма, то яна, калі прыязджае ў Саюз, імкнецца трапіць да мяне. У яе на шыі пасля аперацыі папярочны кілоідны рубец. Жанчына з-за яго шмат пакутавала—цяжка рухаць шыяй, рубец выклікае страшны сверб, болі. Нягледзячы на трохразовае хірургічнае высячэнне, шматразовае лазернае ўздзеянне, рубец не змяншаўся. Але пасля першага ж курсу гамеапатычнага лячэння рубец істотна зменшыўся, палепшылася агульнае самаадчуванне жанчыны. Зараз яна працягвае прымаць гамеапатычныя прэпараты, і эфект ад іх усё больш і больш відавочны.

Гэта добры прыклад таго, як пад рэгулюючым уздзеяннем мікрадоз гамеапатычнага сродку арганізм перабудаваўся на знішчэнне лішняй тканкі.

**— У апошні час ледзь не на кожным кроку можна набыць самыя розныя «лячэбнікі», многія з якіх прэтэндуюць на аказанне гамеапатычнай дапамогі любому жадаючаму. Як Вы ставіцеся да такой літаратуры?**

— Лічу сваім абавязкам папярэдзіць тых, хто захоча займацца самалячэннем гамеапатычнымі сродкамі. Справа гэта для неспецыяліста небяспечная. Самастойнае прыгатаванне настоек, эсенцый і г. д., іх дылетанцкае прымяненне без ведання доз, развядзенняў, індывідуальнага падыходу нічога, апрача шкоды, не дае. Можна прымаць толькі гамеапатычныя лякарствы, вырабленыя ў спецыялізаваных аптэках, пасля кансультацыі ўрачоў-гамеапатаў. Гамеапатыя і самалячэнне несумяшчальныя, бо гамеапатыя—справа тонкая, складаная і патрабуе глыбокага ведання не толькі лекавых патагенезаў, але і патафізіялогіі як асновы медыцыны ў цэлым.

**— У сакавіку на сваім першым з'ездзе была ўтворана Беларуская гамеапатычная асацыяцыя. Якія мэты яна ставіць?**

— Асацыяцыяй распрацавана праграма сумеснай работы ўрачоў, гамеапатаў, правізараў і фармацэўтаў спецыялізаваных аптэк па забеспячэнню насельніцтва рэспублікі гамеапатычнай дапамогай, спецыяльнымі сродкамі лячэння, прафесіянальнага ўдасканалення ўрачоў гамеапатаў. Пакуль гамеапаты працуюць толькі ў некаторых гарадах рэспублікі—Лідзе, Магілёве, Бабруйску, Гомелі, Ляхавічах. Асабліва моцнае крыло асацыяцыі дзейнічае ў Віцебскай вобласці і самім Віцебску, дзе эфектыўна працуе шматпрофільная гамеапатычная амбулаторыя. Першарадная задача нашай асацыяцыі—садзейнічаць пашырэнню гамеапатычнага метаду на іншыя рэгіёны Беларусі. Спадзяёмся, што ўжо не прыйдзецца дзякуючы падтрымцы Міністэрства аховы здароўя БССР і яго апошняму загаду «Аб удасканаленні гамеапатычнай дапамогі насельніцтву рэспублікі», пераадольваць мноства штучных бар'ераў.

**— «Аб удасканаленні...» Значыць, яшчэ да гэтага загаду гамеапатыяй у рэспубліцы пройдзены пэўны шлях?**

— Так. Беларускія спецыялісты праходзілі падрыхтоўку ў гамеапатычных цэнтрах краіны. Вялікая заслуга ў развіцці гэтага метаду ў Беларусі яго падзвіжніц І. Аляксеевай з першай паліклінікі Мінска і М. Хромавай, загадчыцы гамеапатычнага аддзела мінскай аптэкі № 104.

Вельмі перспектыўнай уяўляецца дзейнасць «Волата»—інавацыйнага медыцынскага цэнтра, які фінансуе перспектыўныя напрамкі ў галіне медыцыны, у тым ліку і гамеапатыі. Ужо набыты ўнікальныя сучасныя прыборы для гамеапатычнай дыягностыкі і індывідуальнага падбору прэпаратаў, выдзяляліся сродкі на падрыхтоўку спецыялістаў, правядзенне семінараў, выязных цыклаў вядучых спецыялістаў, набыццё медыцынскага абсталявання, інвентару і г. д.

Заснавальнікамі і спонсарамі «Волата» выступілі завод «Электроніка», НВА «Інтэграл», Мінскі дыягнастычны цэнтр, аб'яднанне «Медтэхніка», інавацыйны медыцынскі цэнтр «Акбулак» Міністэрства аховы здароўя Казахстана. Іх дзейсная дапамога «Волату» і асацыяцыі ўсяляе ўпэўненасць у развіцці гамеапатыі не толькі ў Мінску, але і па ўсёй Беларусі.

Зараз у Мінскім дыягнастычным цэнтры па вуліцы Сямашкі, 10 адкрыты гамеапатычны прыём. Яго вядуць высокакваліфікаваныя спецыялісты, кандыдаты медыцынскіх навук. Запіс на кансультацыю вядзецца праз рэгістратуру—пры асабістым наведванні, па тэлефонах 72-69-09, 72-54-93, а для іншагародніх—72-72-90, а таксама пасля пісьмовага звароту. Спецыялісты «Волата» гатовы супрацоўнічаць з арганізацыямі і прыватнымі асобамі ў галіне выкарыстання прыродных лекавых сродкаў.

**— У чым важнасць стварэння гамеапатычнай асацыяцыі для жыхароў Беларусі?**

— Насельніцтва рэспублікі так ці інакш зведвае ўздзеянне вынікаў чарнобыльскай катастрофы. Таму выкарыстанне экалагічна чыстых лекавых сродкаў для ўсіх нас вельмі важнае.

Дзякуючы таму, што ў Беларусі дзейнічае асацыяцыя, а не гамеапаты-адзіночкі, мы маем вагу як у Саюзе, так і ў свеце. Нядаўна прэзідэнт Савецкай гамеапатычнай лігі прафесар У. Глаз перадаў нам частку замежнай гуманітарнай дапамогі. Ліга дапамагае лекавымі сродкамі, у стажыроўцы беларускіх гамеапатаў у спецыялізаваных цэнтрах у краіне і за мяжой. Мацуюцца сувязі нашай асацыяцыі з аналагічнымі замежнымі аб'яднаннямі гамеапатаў.

Але галоўнае, што гамеапатыя рэспублікі ў стане аказаць станоўчы ўплыў на зніжэнне захворванняў.

**Інтэрв'ю ўзяў Я. ЧАПЛЯ.**

## Служба дні і ночы

# Фальшывыя долары

Таго доўга ўгаворваць не прыйшлося. Папрасіўшы для ўзору сапраўдную 20-доларавую купюру, ён ахвотна ўзяў і каля дзесятка ксеракопій. А неўзабаве Уладзімір Лазар вярнуў яму «заказ», атрымаўшы адпаведнае ўзнагароджанне.

Невядома, як доўга працягвалася б гэта сумеснае «прадпрыемства» і, наогул, ці атрымала б яно такое развіццё, каб у чэрвені 1988 года з месц не такіх аддаленых не вярнуўся Вячаслаў Салаўёў. Пасяліўся ў маці ў пасёлку пад Мінскам. За свае 48 гадоў Вячаслаў меў тры тэрміны, прычым апошні раз быў асуджаны на 10 гадоў менавіта за валютныя аперацыі.

У Мінску Салаўёў выпадкова сустрэў Лістапада, якога ведаў яшчэ з 1976 года, калі Міша працаваў барменам. Рыбак рыбака... Словам, тут абышлося без лішніх размоў. Калі Міхаіл паказаў Салаўёву ўжо расфарбаваныя ксеракопіі, той адразу ацаніў магчымасць разбагацець.

У лістападзе таго ж 1988 года Салаўёў набыў у Лістапада прыкладна паўтара дзесятка чорна-белых ксеракопій з 20-доларавай купюры. Затым перадаў іх Лазару для канчатковай апрацоўкі.

«Прадпрыемства» па вырабу фальшывых долараў набывала ўсё большы размах. Лазар ужо не ў стане быў адзін справіцца з заказамі, а таму вясной 1989 года прыцягнуў для вырабу фальшывак свайго знаёмага Ігара Федарэнчыка. Толькі ў сакавіку—жніўні Салаўёў набыў у Лістапада каля ста ксеракопій з 20, 50 і 100-доларавых купюр. Уся гэта «прадукцыя» затым прайшла праз рукі Лазара і Федарэнчыка. Арганізацыя збыту фальшывай валюты — справа рызыкоўная. Гэта добра ведалі ўдзельнікі падпольнай групы. Патрэбны былі надзейныя памочнікі для стварэння свайго роду антуражу: хтосьці павінен быў падбіраць кліентуру, хтосьці непасрэдна займацца абменам. Акрамя таго, трэба было мець і пэўнае прыкрыццё ў выпадку непажаданага развіцця падзей. Так у поле зроку фальшывавалютчыкаў трапілі Алег Цыбульскі, Юрый Яршоў і Юрый Сташкевіч.

На гэты раз вырашылі паспрабаваць шчасця ў Вільнюсе.

І вось 24 жніўня 1989 года яны адправіліся ў сталіцу Літвы. За рулём, як заўсёды, Уладзімір Лазар. На гэты раз у салоне яго «Жыгулёў» было цесна: разам з Вячаславам Салаўёвым там былі Алег Цыбульскі і абодва Юрыі — Яршоў і Сташкевіч.

Першым у разведку накіраваўся Алег Цыбульскі. Хутка знайшоў трох палякаў, якіх якраз цікавіў той тавар, што мог прапанаваць Цыбульскі. Праўда, ён сказаў, што валюта ў сябра, але калі яны гатовы заплаціць 1.200 рублёў за 100-доларавую купюру, то ўвечары могуць заключыць здзелку.

Прыкладна каля дзевятнаццаці вечара адбылася сустрэча каля тэатра оперы і балета. Пачаўся «спектакль», сцэнарыстам і рэжысёрам якога быў Вячаслаў Салаўёў. Атрымаўшы ад яго сапраўдныя стодоларавую і аднадоларавую банкноты, Алег Цыбульскі накіраваўся да сваіх рыначных знаёмых, што з нецярпеннем чакалі яго. Тыя пакруцілі ў руках «зялёненькую», вярнулі яе ўладальніку і пачалі адлічваць «драўляныя». І пасля таго як 1.200 рублёў перакачавалі ў кішэнь Цыбульскага, ён працягнуў паляку аднадоларавую паперку. Калі паляк убачыў падман і паспрабаваў вярнуць свае грошы, падышлі Сташкевіч і Яршоў, адрэкамендаваўшыся супрацоўнікамі міліцыі. Але, відаць, палякі адразу здагадаліся, што гэта за «міліцыянеры». Паспрабавалі затрымаць гэтых «ахоўнікаў парадку». Пад'ехалі «Жыгулі», у якія «міліцыянеры» паспрабавалі сесці, але палякі моцна ўчапіліся ў іх. Машына паехала, а ўдзельнікам аперацыі прыйшлося тэрмінова ўцякаць.

Праз тыдзень, 30 жніўня,—новы ваяж. Цяпер сябры ўзялі курс на Баранавічы. Як і раней, за рулём Уладзімір Лазар, а вось у салоне «Жыгулёў» на гэты раз толькі двое — Вячаслаў Салаўёў і Алег Цыбульскі.

Сцэнарый той жа. Прыкладна каля 12 гадзін дня ў гасцініцы «Гарызонт» Цыбульскі дамовіўся з трыма палякамі аб продажы пяцідзесяцідоларавай купюры. Цана—600 рублёў. Пакуль тыя пералічвалі грошы, Алег спрытна замяніў сапраўдную «зялёненькую» на фальшыўку. Сваю «ролю» выканаў і Салаўёў: у самы адказны момант ён завёў размову аб продажы залатых вырабаў. Госці і вушы развесілі. А калі здагадаліся, што іх падманулі, махляры ехалі ўжо ў бок Мінска...

—УСЁ, МІХАІЛ ЮР'ЕВІЧ, здаецца, нашы кліенты гатовы, — звярнуўся да Сазонава маёр Жалнерчык.— Час браць, пакуль не нарабілі бяды. Ці таго горш — могуць і зацiхнуць. Потым цяжка будзе вывесці на чыстую ваду гэтых «мастакоў».

— Я і сам пра гэта думаў,— пагадзіўся Сазонаў. — А як начальства паглядзіць? Ім, бачыце, адным махам усё падавай.

Увесь апошні месяц яны сядзелі на хвасце ў злачыннай групы. Яшчэ задоўга да таго, як тых запрыкмецілі, вылічылі завадатая. Ім, безумоўна, быў Вячаслаў Салаўёў — кемлівы, рашучы. Не раз прыходзілася назіраць, як Лазар вазіў яго па гораду. Вячаслаў чамусьці захапляўся ігральнымі аўтаматамі, гадзінамі мог праседжваць каля іх. І ўвесь гэты час Уладзімір Лазар, як і належыць сапраўднаму рамізніку, цярпліва чакаў яго ў сваіх «Жыгулях». Здаралася, заходзілі і ў «кабак», але вельмі рэдка. Салаўёў не быў вялікім прыхільнікам Бахуса.

Паступіў сігнал, што 31 жніўня Вячаслаў Салаўёў разам з Алегам Цыбульскім зноў накіроўваюцца ў Вільнюс. Самы зручны момант, каб узяць на месцы злачынства. І тут нечакана пачаў качаць правы адзін з намеснікаў начальніка ўпраўлення: маўляў, рана яшчэ браць, патрэбна больш доказаў, неабходна высветліць усе сувязі.

Прыйшлося дакладваць па інстанцыях. Нарэшце, высокае начальства згадзілася на правядзенне аперацыі. У Вільнюс паехалі двое — Іван Жалнерчык і Віктар Хоміч. Паскупілася начальства, магло, дакладней, абавязана было паслаць больш людзей. Па наяўных звестках у гэтых гастралёраў магла быць зброя. Стала вядома, што адзін з членаў шайкі неяк у добрым падпітку выклаў прама на стол бармена дзве гранаты. Умяшаліся цыганы, забралі тыя «цацкі», ды яшчэ надавалі па шыі.

Вось і гасцініца, дзе размясціліся злачынцы. Салаўёў заставаўся ў нумары, а Цыбульскі пайшоў у горад.

Чыгуначныя вакзалы — не самае зручнае месца для затрымання. Як і ўсе вакзалы, тутэйшы нагадвае растрывожаны мурашнік. Пры жаданні тут лёгка можна «растварыцца». Таму дзейнічаць трэба асабліва асцярожна.

Па перону не спяшаючыся ідзе стройны малады чалавек. У крутым развароце плячэй адчуваецца сіла. Ды і трымаецца ўпэўнена, хоць іншы раз кідае па баках насцярожаныя позіркі. Здаецца, усё спакойна: дзелавіта снуюць пасажыры, гучны голас дзяжурнай па радыё аб'яўляе аб прыбыцці чарговага поезда.

Каля латка з марожаным—доўгая чарга. Праўда, крыху далей стаяць два міліцыянеры. Але яны, відаць, тут на дзяжурстве, ва ўсякім разе для яго небяспекі пакуль што не ўяўляюць.

Іван Міхайлавіч Жалнерчык уважліва назірае за кожным рухам маладога чалавека. А той зусім спакойна падыходзіць да аўтаматычных камер захоўвання, дастае манету, апускае яе ў адтуліну аўтамата, затым спрытна набірае патрэбны код. Ён нават не азіраецца, дзейнічае ўпэўнена, не спяшаючыся. Вось у яго руках звычайны чорны дыпламат.

У тое ж імгненне побач з ім апынуўся Жалнерчык. Моцны ад прыроды, спартсмен, смелы і энергічны, ён правёў аперацыю бліскуча. Цыбульскі нават не заўважыў, як запясце яго абхапілі пальцы чужой рукі.

Падышоў капітан міліцыі Хоміч. Адзін бранзалет шчоўкнуў на руках у Алега Цыбульскага, другі — на левай руцэ ў Хоміча.

— Усё, Віктар Мікалаевіч, — нявесела пажартаваў Жалнерчык. — Цяпер вы з ім, як сіямскія блізняты. Чакай мяне тут, а я за тым, што застаўся ў гасцініцы. Каб не адчуў небяспекі. А ты ў мяне без фокусаў! — кінуў ён Цыбульскаму.

Перасцярога не перашкодзіць. А раптам бы ў таго аказаліся тут сябры. Што з таго пісталета — адной рукой нічога не зробіш. Успомніўшы нядобрым словам начальнікаў, якія «зэканомілі» на іх дваіх, Жалнерчык паспяшаўся ў гасцініцу. Салаўёва ўзяў прама ў нумары. Супраціўлення той не аказаў.

У Мінск пайшло паведамленне: высылайце транспарт, «госці» з намі.

Неўзабаве былі затрыманы і валютчыкі, што засталіся ў Мінску. Пры вобыску знайшлі сапраўдныя і падробленыя долары, фарбавальнікі. Наперадзе следства і суд.

ДОЎГА, амаль год ішло расследаванне гэтай незвычайнай справы. Давялося апытаць многіх сведак, у тым ліку і за мяжой.

І вось, нарэшце, суд. Не проста было старшынствуючаму члену калегіі па крымінальных справах Мінскага гарадскога суда Рыгору Рыгоравічу Казырыцкаму. Здавалася б, усё ясна: неабвержныя доказы, факты. І ўсё ж некаторыя падсудныя спрабавалі навесці цень: я не я і хата не мая. Асабліва стараўся Лазар: хітраваў, выкручваўся.

Прыгавор даў кожнаму «за працу яго». Вячаслаў Салаўёў атрымаў чатыры гады строгага рэжыму. У яго канфіскавана маёмасць. На тры з палавінай гады з канфіскацыяй маёмасці асуджаны Міхаіл Лістапад і Уладзімір Лазар, Алег Цыбульскі — на тры гады. Ігару Федарэнчыку далі тры гады ўмоўна.

**Уладзімір ГОЙТАН.**

(Заканчэнне. Пачатак у № 84).

## ТЭЛЕБАЧАННЕ

### 1 мая

**Праграма Беларускага тэлебачання**

**9.05.** Наш каментарый. Майскі ранак.
**9.10.** «Пра час свой гавару». Дак. фільм.
**9.45.** «Вясёлкавыя песенькі». Выступаюць выхаванцы дзіцячых садоў г. Мінска.
**10.25. Мінск. Плошча імя У. І. Леніна. Перадача, прысвечаная Дню міжнароднай салідарнасці працоўных 1 Мая.** Пасля заканчэння — «Спяём для вас яшчэ раз». Канцэрт удзельнікаў дзіцячай мастацкай самадзейнасці.
**12.30.** «Мой лёс — маё каханне». Канцэрт з твораў народнага артыста СССР І. М. Лучанка.
**13.00.** Фільм — дзецям. «Цімур і яго каманда».
**15.40.** «Зноў чую голас твой...» Музычны фільм.
**16.20.** «Усе зоркі». Кінаканцэрт.
**17.10.** Святочны канцэрт Дзяржаўнага ансамбля танца БССР.
**17.55.** Мультфільмы. «Пакацігарошак», «Пластылінавая варона», «Дзіўны манеж», «Нехачуха», «Нататкі пірата».
**18.45.** Песню бярыце з сабою. Музычная праграма.
**19.30.** Рэпартаж аб святкаванні ў рэспубліцы Дня міжнароднай салідарнасці працоўных 1 Мая.
**20.00.** І Рэспубліканскі конкурс маладых выканаўцаў эстраднай песні.
**20.45.** Калыханка.
**21.00.** «Ад бацькі я не адракуся», «З чаго сарока кашу варыла». Дак. фільмы.
**21.45.** І Рэспубліканскі конкурс маладых выканаўцаў эстраднай песні. Працяг.
**23.00.** «Верую ў каханне». Мастацкі фільм.

**Першая агульнасаюзная праграма**

**8.00.** ТСН.
**8.20.** Дак. фільмы «Вольны табун», «Чонар-Даш».
**8.55.** Канцэрт Акадэмічнага хору рускай песні Дзяржтэлерадыё СССР.
**9.55. Масква. Красная плошча. Мітынг, прысвечаны Дню міжнароднай салідарнасці працоўных 1 Мая.**
**11.00.** «На балі ў Золушкі».
**12.05.** Мастацкі фільм «Фалькон».
**13.05.** П. І. Чайкоўскі. «Лебядзінае возера». Спектакль.
**15.05.** «Шмат галасоў — адзін свет». Адкрыццё цыкла перадач, прысвечаных старажытнаму мастацтву апавядальнікаў.
**15.40.** «Ступень да Парнаса». Канцэрт зорак першага і другога фестываляў.
**16.55.** КВЗ-91. Сустрэча каманд Уральскага політэхнічнага інстытута і Маскоўскага інжынерна-будаўнічага інстытута.
**18.50.** «Уолт Дысней прадстаўляе...»
**19.40.** Мастацкі фільм «Князь Удача Андрэевіч».
**21.00.** Час.
**22.00.** «Блакітны агеньчык».
**23.55.** «Танцы, танцы, танцы». Кубак Еўропы сярод прафесіянальных выканаўцаў.
**0.30.** ТСН.

**Другая агульнасаюзная праграма**

**8.00.** Ранішняя гімнастыка.
**8.15.** Канцэрт рускага харэаграфічнага і песеннага фальклору.
**8.40.** «Дзядзька Сцёпа — міліцыянер». Мультфільм.
**9.00.** Фільм — дзецям. «Вялікая прыгода». 1-я серыя.
**10.15.** Канцэрт Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра СССР.
**11.15.** Дак. фільм «Гідранаўты».
**11.35.** В. Шукшын. «Старэчая справа». Тэлеспектакль.
**12.35.** Народныя мелодыі.
**12.50.** Дак. фільм «Гімназісты».
**13.40.** «Не бойся, я з табой». Мастацкі фільм. 1-я і 2-я серыі.
**16.10.** «Запаветныя мясціны». Нарыс.
**16.30.** «Даніла і Няніла». Мультфільм.
**16.50.** «Тэатр, які я люблю».
**17.50.** «Гаспадар кабарэ — лёс». Творчы вечар паэта Н. Дзянісава.
**20.00.** Добрай ночы, малышы!
**20.15.** Рускія народныя песні выконвае А. Маладцова.
**20.30.** Музей на Дэлегацкай. Мастацтва шчырай прыгажосці.
**21.00.** Час (з сурдаперакладам).
**22.00.** «Беражыце жанчын». Мастацкі фільм. 1-я і 2-я серыі.

### 2 мая

**Праграма Беларускага тэлебачання**

**9.00.** Дак. фільмы «Прыроды храм нерукатворны», «Есць куток на зямлі».
**9.40.** «Верую ў каханне». Мастацкі фільм.
**11.00.** «Запрашальны білет». Танцы народаў свету выконвае ўзорны ансамбль «Раўеснік».
**11.45.** Фільм — дзецям. «Мама».
**13.10.** «Партрэт любімай жанчыны». Дак. фільм.
**13.50.** Забаўляльна - пазнавальная праграма для дзяцей.
**14.40.** «Рамэо і Джульета». Спектакль тэатра оперы і балета БССР.
**16.50.** Запрашаем на вячоркі. Фальклорны ансамбль вёскі Маканавічы Рэчыцкага раёна.
**17.55.** Футбол. «Дынама» (Мінск) — «Металіст» (Харкаў).
**19.50.** Панарама.
**20.20.** «Дзеючыя асобы і...» Фільм-канцэрт.
**20.45.** Калыханка.
**21.00.** «Выбірай!», «Сніўся мне сад». Дак. фільмы.
**21.50.** Крок.

**Першая агульнасаюзная праграма**

**8.00.** ТСН.
**8.20.** Канцэрт Варонежскага рускага народнага хору.
**8.55.** «Сялянскі статус». Дак. фільм.
**10.00.** Мастак Ф. Канстанцінаў.
**11.05.** Мультфільмы «Пінгвіны», «Чароўныя званы».
**11.30.** Канцэрт Дзяржаўнага сімфанічнага аркестра Міністэрства культуры СССР.
**12.00.** Фільмы рэжысёра А. Шахмаліевай. «Соф'я Кавалеўская». 1-я серыя.
**13.20.** «50×50». Музычны дадатак да праграмы «...Да 16 і старэйшым».
**14.55.** Мультфільм «Ну, пачакай!» Выпускі 1, 2, 3-ці.
**15.25.** Дак. фільм «Адкрый шкатулку».
**15.50.** А. Вівальдзі. «Поры года». Музычны фільм (Францыя).
**16.30.** Мастацкі фільм «Зверабой». 1-я і 2-я серыі.
**18.55.** Хакей. Чэмпіянат свету. Матч каманд фінальнай групы.
**21.00.** Час.
**21.45.** «Шчаслівы выпадак». Сямейная тэлевікторына.
**22.50.** «Рандэву на Цвятным, 13». У перапынку (24.00)— ТСН.

**Другая агульнасаюзная праграма**

**8.00.** Ранішняя гімнастыка.
**8.20.** «Натхненне». Дак. фільм.
**8.30.** «Рабі з намі, рабі, як мы, рабі лепш за нас».
**9.15.** Фільм — дзецям. «Вялікая прыгода». 2-я серыя.
**10.35.** М. Дзярфаш. «Прачніся і спявай!» Фільм-спектакль.
**12.15.** «Востраў скарбаў». Мультфільм.
**14.05.** «Цяпло ад аленяў у тундры». Цыкл «Зямля Еўропы» (Фінляндыя).
**14.55.** Хакей. Чэмпіянат свету. Матч каманд фінальнай групы.
**17.45.** Спорт для ўсіх.
**18.00.** Футбол. «Шахцёр» — «Спартак».
**18.50.** Мультфільм.
**18.55.** «Заўтра будзе дзень добры» (Краснаярск).
**19.30.** «Прэм'ера ў Сасноўцы». Мастацкі фільм.
**20.45.** Добрай ночы, малышы!
**21.00.** Час (з сурдаперакладам).
**21.45.** Мастацкі фільм «Дні Турбіных». 1-я серыя.
**23.00.** Вертыкаль. «Бярозавыя галасы».



## РАДЫЁ

### 2 мая

6.20 — «Спеў роднай зямлі». Канцэрт салістаў і музычных калектываў Беларусі. 7.00 — «Свет сёння». Інфармацыйны выпуск. 7.15—«Музыка і натхненне». Эстрадная праграма. 8.25—іграюць эстрадныя аркестры. 9.15 — «Добрай раніцы!» 10.15—у радыётэатры «Купалінка». У. Машкоў. «Як я быў вундэркіндам». Радыёпастаноўка. Частка 2-я, заключная. 11.00—«Саветы: улада і справы». Радыёчасопіс. 11.20—«Песня-91». 12.30 — танцавальныя мелодыі. 12.45—Н. Гілевіч. «Родныя дзеці». Радыёспектакль. 15.15 — прэм'ера песні. В. Кандрусевіч, Г. Бураўкін. «Кампрамісы». Спявае А. Саладуха. 15.30—эстрадныя п'есы І. Лучанка. 15.50 —у Савеце Міністраў БССР. Урадавая прэс-служба паведамляе. 16.15—Рамантыкі. 17.15—«Мінская вясна» — «Амадэус». В. Моцарт. «Выкраданне з сераля». 18.00—«Любімыя мелодыі». 19.30—чэмпіянат СССР па футболу. «Дынама» (Мінск) — «Металіст» (Харкаў). 19.45 — Попхваля. Эстрадны канцэрт з удзелам савецкіх і зарубежных артыстаў. 20.15—вячэрняя казка. 20.45—пошта радыё. 21.00—ад шчырага сэрца. Музычная праграма па пісьмах радыёслухачоў. 22.30—Г. Айран. Апавяданні. Чытае Р. Сухаверка. 23.15 — радыёстанцыя «Юнацтва». Праграма «Вячэрні кур'ер».

## НАДВОР'Е

### 1 мая

Усход, захад, даўжыня дня: Мінск — 5.34, 20.40, 15.06; Віцебск — 5.19, 20.34, 15.15; Магілёў — 5.23, 20.29, 15.06; Гомель — 5.23, 20.23, 15.00; Гродна — 5.48, 20.56, 15.08; Брэст — 5.56, 20.49, 14.53.

Сёння ўдзень па рэспубліцы воблачнае з праясненнямі надвор'е, на большай частцы тэрыторыі дажджы, магчымы навальніцы. Тэмпература паветра ў Гродна—11—13, Брэсце—12—14, Мінску—13—15, Віцебску—14—16, Магілёве — 15—17, Гомелі — 16—18 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак месцамі, 2 мая ўначы па большай частцы тэрыторыі дажджы. Тэмпература паветра ноччу 6—11, удзень — 10—15, 3 мая па поўдню месцамі да 20 градусаў цяпла.

**Л. САНКЕВІЧ, інжынер-сіноптык.**

## СОВЕТСКАЯ БЕЛОРУССИЯ — СЁННЯ Ў НУМАРЫ

**«Аб становішчы ў краіне і шляхах вываду эканомікі з крызісу».** Пастанова аб'яднанага Пленума ЦК і ЦКК КПСС.
**У Дзяржкамцэн СССР і Мінфіне СССР.**
**«Аб рабоце камуністаў у Саветах народных дэпутатаў».** Пастанова аб'яднанага Пленума ЦК і ЦКК КПСС.
**«Ходзяць чуткі...»** Званок з рэдакцыі.
**«Свята журналістаў».** Напярэдадні падзеі.
**«У планах і наяве».** Зона асаблівай увагі.
**«У барацьбе народжаны».** 100 гадоў назад у Расіі адбылася першая маёўка.
**«І загучыць Юр'е песнямі».** Культура і традыцыі.
**«Камчатка —край свету!».** Вецер вандраванняў.
**У канцы нумара.**
**Афіша дня.**

Галоўны рэдактар У. Б. НАРКЕВІЧ.

НАШ АДРАС: 220041, гор. Мінск, Ленінскі праспект, 77, рэдакцыя газеты «Звязда».

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 32-51-05, аддзела пісьмаў — 32-04-52; 32-41-92, рэкламы і аб'яў — 32-35-91, навін — 32-60-13.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні неабавязкова адлюстроўваюць пункт гледжання рэдакцыі.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Тыраж 102.822. Індэкс 63850. Зак. № 85.

Выходзіць 250 разоў на год.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12